© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №16-17(1-2), 2011

Аляксей Ластоўскі

# Бунт тутэйшых супраць нацыі

Чернявская, Юлия (2010). *Белорусы. От «тутэйшых» – к нации.* Минск: ФУАинформ. 512 с.

Кніга Юліі Чарняўскай, вядомага беларускага культуролага, прысвячаецца тэме беларускай нацыі, шляху яе гістарычнага развіцця і асаблівасцям нацыянальнага менталітэту. Праблематыка гэтая цяпер гарачая і жывая, яна адразу гарантуе сталы чытацкі інтарэс, таму і кніга «*Беларусы. Ад "тутэйшых" да нацыі*» значна нашумела ў айчыннай інфармацыйнай прасторы, пакінуўшы за сабою шлейф інтэрв'ю і рэцэнзіяў. Павышанай увазе паспрыяла і тое, што кніга выйшла ў досыць папулярнай серыі «Невядомая гісторыя», якой займаецца ўсім вядомы Анатоль Тарас, нястомны папулярызатар рэвізіяністцкай версіі беларускай гісторыі. З невялікімі дапушчэннямі можна сказаць, што кніга Юліі Чарняўскай прадстаўляе якасна новы падыход да інтэлектуальнага прадукту, які яшчэ толькі пачынае замацоўвацца ў нашай публічнай прасторы. Пры такім падыходзе ўспрыняцце ды інтэрпрэтацыя тэксту шмат у чым залежаць ад шырокага рэзанансу, які адмыслова выбудоўваецца і накіроўваецца.

З іншага боку, арыентацыя на масавага чытача (ствараецца ўражанне, што яна закладвалася найперш не аўтаркай, а выдаўцом) прывяла да істотных зменаў у пачатковым варыянце кнігі. Цяжка сказаць, ці павысілі яны даступнасць і агульную зразумеласць тэксту, але для разумення аўтарскай логікі кнігі гэтыя крокі яўна аказаліся няўдалымі, бо змяшчэнне тэарэтычных уводзінаў напрыканцы кнігі ніяк не спрыяе яе нармальнаму чытанню (прынамсі, для падрыхтаванага чытача). Прычым гэтае перамяшчэнне так і не падчысціў рэдактар: напрыклад, на с. 11 мы сустракаем адсылку да тлумачэння лінгвістычнай разнастайнасці нацыяў у «папярэднім нарысе», які фактычна перанёсся ў канец кнігі. Дый шмат якія тэрміны (кшталту этнафоры) або аўтарскія тлумачальныя захады яўна былі б больш зразумелыя пасля азнаямлення з тэарэтычнымі ўводзінамі, якія напаткаў горкі

лёс быць адсунутымі ў завуголле кнігі ў сілу сваёй «нецікавасці».

Яшчэ больш дзіўным і недарэчным выдавецкім крокам падаецца адсутнасць нумарацыі ў спісе цытаваных крыніцаў, у той час як у тэксце кнігі спасылкі зробленыя ў адпаведнасці з нумарацыяй. У выніку пры жаданні праверыць першакрыніцу трэба або шукаць яе паводле імя аўтара, або займацца самастойнымі падлікамі – якая ж гэта кніга стаіць пад нумарам 66? Відавочна, што спроба «папулярызаваць» выданне негатыўна паўплывала на адпаведнасць не толькі навуковым стандартам, але і патрабаванням здаровага сэнсу.

Хаця і першапачатковая, і неадрэдагаваная «навуковасць» гэтай кнігі можа быць прадметам крытыкі, бо азнаямленне з тэкстам «Ад тутэйшых да нацыі» пакідае вельмі шмат сумневаў метадалагічнага характару, якія ў гэтай рэцэнзіі мы звядзем да шэрагу асноўных тэзаў.

Па-першае, вельмі амбітная задача, пастаўленая аўтаркаю, – прасачыць увесь гістарычны шлях фармавання беларускай нацыі з асаблівым акцэнтам на адметнасці нацыянальнага менталітэту – патрабуе энцыклапедычнай дасведчанасці і вялізнай карпатлівай працы. Але ў выніку мы назіраем цалкам кампілятыўнае абыходжанне з гістарычным матэрыялам, найбольш відавочнае пры азнаямленні з «Уводзінамі», дзе ў скарочаным выглядзе прэзентуецца гісторыя станаўлення беларускай нацыі. Пры гэтым кампілятыўная праца ў гэтым выпадку звычайна не патрабуе захавання той строгасці з фактамі, якая звычайна патрабуецца ад прафесійнага гісторыка.

Напрыклад, ужо на самым пачатку «Уводзінаў» (с. 10) мы сустракаемся з тым, што заснавальніка беларускай гістарыяграфіі завуць Міхаіл Доўнар-Запольскі, а не Мітрафан. Далей (с. 12) апошні перапіс у СССР датуецца не 1989 годам (калі ён адбыўся насамрэч), але 1985-м. Апошні на сённяшні момант перапіс у Беларусі датуецца 2008 годам, а не 2009-м; і гэтак далей па тэксце. Такіх памылак на старонках вельмі шмат, і датычаць яны не толькі гістарычнай фактуры, але нават сучасных рэаліяў. Чаго варты толькі згаданы на с. 396 цэнтр этнакасмалогіі «Друвіс». Можна было б спаслацца на тое, што гэта дробныя памылкі, якія мусіў выправіць навуковы рэдактар. А пры тым, што кніга мае толькі «агульнага» рэдактара Анатоля Тараса, іх можна палічыць выдавецкімі недахопамі. Вось толькі вольнасць абыходжання з фактычным матэрыялам здаецца метадалагічным прынцыпам аўтаркі, якая больш зацікаўленая ў прыгожых інтэрпрэтацыях, чым у цяжкай і няўдзячнай працы з разнастайнымі крыніцамі.

Сінтэтычную версію фармавання беларускай нацыі наогул немагчыма напісаць як беспраблемную, бо шмат якія прынцыповыя моманты жыва абмяркоўваюцца ў беларускай гістарыяграфіі. У той жа час Юлія Чарняўская шматлікія балючыя кропкі перадае як нешта маналітнае і канчаткова вырашанае: гэта датычыць і этнічных працэсаў змяшэння славянаў з балтамі, і праблемы

размежавання «русінаў» ды «літвінаў» і г. д. У адпаведнасці са стылістыкай падачы матэрыялу складаецца ўражанне, што меркаванні аўтаркі на гэты конт ёсць апошнім словам: яны нібыта мусяць зняць усе цяжкасці ў вырашэнні надзвычай складаных для беларускай навукі задачаў, пра якія апошнім часам шмат пішацца і друкуецца.

Пры гэтым дзіўным выглядае і захаванне ў тэксце фантома Кіеўскай Русі. І нават на с. 18 ідзе гаворка пра тое, што «русіны» – гэта палітонім для насельніцтва Кіеўскай Русі (гэта наогул выглядае вельмі спрэчна, бо палітонім патрабуе для свайго фармавання захавання ўстойлівага палітычнага арганізму, пра што ў прыведзеным прыкладзе ніякай гаворкі ісці не можа). Але наогул не зразумела, адкуль бяруцца падставы для вынясення вердыктаў, калі відавочна, што Юлія Чарняўская абапіраецца толькі на вельмі абмежаваную колькасць спецыяльных даследаванняў (калі яна спрабуе нейкім чынам на іх спасылацца, то ўзнікаюць дадатковыя памылкі),[1] і яе веды гісторыі абмяжоўваюцца пераважна працамі абагульняльнага характару.

Магчыма, спакусу кампетэнцыі нараджае знаёмасць з папулярнымі цяпер сацыяльна-канструктывісцкімі працамі ў тэорыі нацыі ды нацыяналізму, што дае аўтарцы права з «новых» навукова-тэарэтычных пазіцыяў перапісваць гісторыю нашага народу. Але гэтае захапленне канструктывізмам робіцца апошнім часам усё больш пашыраным, і чарговыя пераказы Бенедыкта Андэрсана або Эрнэста Гелнэра ўжо нікога не могуць здзівіць ды патрабуюць працэдураў належнай верыфікацыі на айчынным матэрыяле.

Пры гэтым паўстаюць істотныя прабелы: гэтак, пры апісанні фармавання беларускай нацыі досыць шмат ўвагі адводзіцца ролі мясцовай інтэлігенцыі ў абуджэнні сялянаў (з абавязковымі спасылкамі на Мірaслава Гроха і Эрнэста Гелнэра), але наогул не згадваецца заходнерусізм як з’ява, а без гэтага не можа сфармавацца ніякае адэкватнае ўяўленне пра беларускі інтэлектуальны кантэкст XIX стагоддзя.

Цікава адзначыць, што і спасылкі на выказванні «краёвага» перыяду Антона Луцкевіча служаць падставай для атаясамлення краёвых ідэалаў з беларускім нацыянальным рухам, і як вынік галоўнай рысай нацыянальна-культурнага праекта пачатку XX стагоддзя называецца «мультыкультурнасць» (с. 70). Гэта чарговы раз паказвае вольнасць абыходжання з гістарычным матэрыялам, бо адносіны краёвага руху з беларускім і польскім нацыяналізмам былі нашмат

---

[1] Напрыклад, на с. 53 сярод даследнікаў, якія казалі аб прапольскіх настроях Кастуся Каліноўскага, першым называецца А. Анціпенка, калі ж насамрэч гаворка можа ісці выключна пра А. Астапенку. Да таго ж апошні напісаў на гэтую тэму выключна спекулятыўны артыкул, які ніякім чынам не можа лічыцца даследаваннем. Што ўжо казаць пра ўзровень абмеркавання гэтай вельмі вострай тэмы сярод беларускіх гісторыкаў і прапанаванага аўтарскага яе развязання!

больш заблытаныя і складаныя ды прайшлі шлях ад пачатковага супрацоўніцтва (пры захаванні сваёй адметнасці) да канкурэнцыі і вынікова адмірання краёвасці.

Але галоўная вартасць публікацыі, безумоўна, заключаецца ў аўтарскіх распрацоўках Юліі Чарняўскай, якія складаюць асноўную частку кнігі і рэпрэзентуюць вынікі даследавання менталітэту беларусаў на трох асноўных стадыях:

1) менталітэт беларускіх сялянаў XIX стагоддзя;

2) менталітэт беларускай савецкай інтэлігенцыі;

3) менталітэт сучасных беларусаў.

Мы бачым тры розныя гістарычныя перыяды, погляды розных сацыяльных слаёў і прынцыпова розныя крыніцы для аналізу менталітэту (казкі, лісты і блогі адпаведна).

Найлепшая, найбольш цікавая і распрацаваная частка кнігі прысвячаецца аналізу беларускіх казак. Гэта і нядзіўна, бо яна грунтуецца на кандыдацкай дысертацыі Юліі Чарняўскай і на ўжо апублікаванай манаграфіі «Беларус: штрыхі да партрэту» (Чернявская, 2006). Аналіз вялікага фальклорнага масіву (больш як тысячы сацыяльна-побытавых казак, сабраных на мяжы XIX–XX стагоддзяў) дае даволі падрабязную карціну ўяўленняў беларускіх сялянаў гэтага часу пра сябе, навакольны свет, «сваіх» і «чужых». З казак вымалёўваюцца як ідэальны вобраз беларуса (у якім вылучаюцца досыць супярэчлівыя характарыстыкі: працавітасць, хітрасць і святасць), так і досыць крытычны вобраз (у межах якога асуджаюцца тыповыя недахопы: п'янства, лянота, канфармізм). Вельмі цікавыя старонкі прысвечаныя адлюстраванню «чужых» у беларускіх казках, – а сярод іх Пан, Поп, Злодзей, Маскаль, Яўрэй і нават Баба.

Але і да гэтай часткі могуць узнікнуць некаторыя пытанні метадалагічнага плану. Яны датычаць праблемы рэпрэзентатыўнасці абраных прыкладаў, асабліва, калі вывучэнне ментальнасці кладзецца на сетку этнічных катэгорыяў. Юлія Чарняўская спрабуе паказаць эвалюцыю і развіццё менавіта беларускага менталітэту, вылучыць базавыя характарыстыкі светагляду беларусаў. І адразу ж паўстае заканамернае пытанне – а ці вылучаюць выяўленыя асаблівасці беларусаў як адметную нацыю? Калі аўтарка даследуе светагляд беларускіх сялянаў, то цалкам не зразумела, дзе там беларускае, а дзе сялянскае, бо ў тэксце кнігі гэтыя паняцці выступаюць сінанімічнымі і ўзаемазамяняльнымі. Калі мужык насміхаецца ў казках з паноў – ці ж гэта рыса, уласцівая беларусам як такім? Магчыма, сяляне навакольных краінаў уяўлялі свет аналагічна? Прынамсі, невялікае знаёмства з гісторыяй ментальнасці дае шмат падставаў, каб у гэта паверыць, у той час як кампаратыўная перспектыва ў кнізе «Беларусы. Ад "тутэйшых" да нацыі» амаль цалкам адсутнічае.

Зноў жа, этнічнасць у рамках сацыяльна-канструктывісцкага падыходу тлумачыцца як сітуатыўнае вызначэнне межаў. І з казак паўстае мадэль соцыуму, дзе галоўныя межы

ў грамадзе вызначаюцца паводле іерархічных падзелаў сацыяльнай стратыфікацыі, бо Пан для Мужыка больш Чужы за Яўрэя. І тут даследніца дэталёва і абгрунтавана апісвае знешнія арыенціры традыцыйнага сялянскага светагляду, які быў яшчэ дамадэрны – і ў гэтым значэнні данацыянальны (або ненацыянальны, калі пагаджацца з тым, што могуць існаваць іншыя тыпы нацыі апроч «мадэрнай»). Больш за тое, гэты сялянскі светагляд належала разбурыць, каб на яго месцы магла паўстаць Беларуская Нацыя, якая б аб'ядноўвала людзей рознага сацыяльнага паходжання: і сялянаў, і мяшчанаў, і шляхту. І тым больш нацыя, што не будзе трактаваць Бабу як Чужую. А разам з разбурэннем «застарэлых» сімвалічных сацыяльных бар'ераў праводзіліся больш грунтоўныя ды істотныя межы з іншымі Нацыямі.

Таму з казак вымалёўваецца аўтапартрэт не беларуса, а тутэйшага мужыка, і нельга пагадзіцца з высновамі пра ўстойлівасць, замацаванасць і «беларускасць» апісанага светагляду хітрага і працавітага селяніна. Хутчэй, у казках вымалёўваецца ідэалістычнае разуменне соцыуму і космасу, якое адмірала ўжо на мяжы XIX–XX стагоддзяў (пра гэта сведчаць і вынікі перапісу 1897 года, якія дэманструюць пашыранасць усведамлення сябе беларусамі сярод тутэйшых мужыкоў, што кантрастуе з самавобразам у казках). Але калі зняць такую абавязковую маркіраванасць «беларускасцю», то гэтая частка кнігі цалкам вартая азнаямлення.

Аднак яе працяг, звязаны з пераходам да менталітэту «савецкага беларуса», выклікае, хутчэй, расчараванне, асабліва пасля жывых і насычаных старонак пра «казачнага беларуса» (або дакладней – «казачнага мужыка»). Тут сумненняў пра рэпрэзентатыўнасць значна больш. Бо матэрыялам «кейса №2» сталіся прыватныя лісты аднаго (sic!) беларускага савецкага пісьменніка, напісаныя ім падчас вайны (у 1941–1944 гадах). Варта адзначыць, што сама ініцыятыва ўключаць у даследніцкі арсенал аналіз эга-дакументаў пакуль практычна ігнаруецца беларускімі навукоўцамі, у той час як за межамі нашай краіны выкарыстанне такіх крыніцаў робіцца ўсё больш пашыраным. Таму само ўжыванне ліставання для рэканструкцыі адметнасцяў менталітэту ёсць досыць свежым крокам, які заслугоўвае ўхвалы. Але чаму даследавалася ліставанне толькі аднаго чалавека, калі стаяла высокая задача стварыць партрэт «савецкага беларуса»?

Калі аналіз казак дае падставы знайсці нейкія тыпалагічныя рысы, бо гэта прадукт калектыўнай творчасці, як і ўвесь фальклор, то ў персанальных дакументах заўсёды паўстае праблема размежавання індывідуальнага і агульнага. Абысці гэтую перашкоду магчыма толькі праз пашырэнне базы крыніцаў, у той час як Юлія Чарняўская робіць надзвычай смелыя абагульненні пра ўвесь народ, грунтуючыся на словах аднаго чалавека.

Зноў жа паўстае тая самая праблема, як і з сялянамі, бо ўзнікаюць аналагічныя складанасці з

абагульненнем матэрыялаў вызначанага сацыяльнага паходжання (якое мае свае адметнасці) на значна больш шырокую нацыянальную групу. Відавочна, шмат якія рысы менталітэту, што аналізуе даследніца, можна патлумачыць як рысы «інтэлігенцкага» паходжання. І часам аўтарка гэта адмыслова адзначае, напрыклад, калі называе параграф «Час і прастора ў менталітэце беларускага савецкага інтэлігента» (с. 305). Але ўжо крыху далей размова зноў ідзе пра «савецкага беларуса», хоць апісаныя рысы досыць лёгка распазнаюцца як абумоўленыя пісьменніцкай прафесіяй, і перанос іх на іншыя сацыяльныя слаі патрабуе прынамсі далейшых даследаванняў ды іншых абгрунтаванняў.

Напрыклад, на с. 318 гаворыцца, што «*менавіта са сферы літаратуры чэрпаецца павага да слова "беларус"*», або на с. 303 гаворка ідзе пра змену традыцыйных гендарных роляў праз запрашэнне жанчыны да супольнай творчасці. І гэта выглядае цалкам натуральным для пісьменніка, але нельга зразумець, ці з той жа крыніцы чэрпалі сваю павагу іншыя савецкія беларусы і ці імкнуліся яны займацца духоўным развіццём сваіх жонак.

Яшчэ адно істотнае абмежаванне выкарыстаных крыніцаў датычыць таго, што ўсе лісты былі напісаныя падчас вайны і вымушанага пераезду іх аўтара ў Маскву. Гэта экстрэмальныя ўмовы, якія вельмі істотна ўплываюць на ацэнку сітуацыі, і таму даюць скажонае ўяўленне пра менталітэт як аснову штодзённага досведу, што звычайна імкнецца да нармалізацыі стасункаў, як гэта выдатна прапісана ў фенаменалагічных штудыях. У аналізе ж ствараецца дзіўнае адчуванне «абагульнення» эміграцкага ваеннага досведу, які робіцца вызначальным для светагляду ўсіх беларусаў. Напрыклад, «*вобраз Дабра шматзначны і шматпланавы. Чырвоная Армія (агульнасавецкі вобраз) і партызаны (беларускі вобраз) разумеюцца як актыўныя агенты дзеяння, як сілы, што ўплываюць на сітуацыю, а народ (пад гэтым словам часцей разумеецца насельніцтва БССР, радзей – "савецкі народ") – як пакутлівая і "маўклівая" большасць*» (с. 290).

Я чуў шмат розных успамінаў пра ваенныя часы і дзеянні партызанаў, але яны, хутчэй, пацвярджаюць тэзіс Валянціна Акудовіча: «*І на захадзе Беларусі (Гарадзеншчына), і на ўсходзе (Віцебшчына – партызанскі край) у непасрэднай, незаідэалагізаванай гаворцы ў слове "партызан" гучыць што заўгодна, ад з'едлівага скепсісу да панылай абыякавасці, толькі не "беларускія сыны". За выключэннем нешматлікіх фактаў, народная свядомасць адраклася ад партызанкі, і таму нам не знайсці паважлівых, удзячных, пазначаных гонарам за мужную дзею інтанацый у семантычнай афарбоўцы ўсяго комплексу слоў, якія яе вызначаюць*» (Акудовіч, 2007: 59).

Можна згадаць і вынікі палявых экспедыцыяў на памежжы Беларусі, дзе з выкарыстаннем вуснай гісторыі збіраліся згадкі пра ваенныя часы (Смалянчук, 2007; Шаталава, 2008: 386–387). У іх таксама вымалёўваецца

адчужаны вобраз партызанскага руху (а калі пакапацца глыбей, то там можна было б знайсці таксама шмат матэрыялу для разумення трансфармацыі свядомасці тутэйшага насельніцтва). У любым выпадку, Чырвоная Армія і партызаны як агенты Дабра – гэта яўная міфалагема ваеннага часу, і немагчыма зразумець, як яна суадносіцца з мірным часам, на які прыпадае асноўнае існаванне «савецкага беларуса».

І галоўнае сумненне палягае ў тым, што калі мы кажам пра «савецкага беларуса» як нешта адзінае і цэласнае, то гэтым ігнаруюцца і падаўляюцца рэальная канфліктнасць розных ідэалагічных версіяў «савецкай беларускасці» (якая найбольш ярка ілюструецца праз разгортванне і згортванне беларусізацыі), шматстайнасць розных стратэгіяў успрыняцця і пражывання савецкасці ў штодзённым жыцці (ад супраціву праз пасіўнасць да актывізму). Факусаванне даследчай оптыкі на дакументах аднаго чалавека прыводзіць да вельмі небяспечнага нівелявання і гамагенізацыі катэгорыі «савецкага беларуса», якая больш хавае ад нас, чым нешта праясняе.

У трэцяй даследчай частцы Юлія Чарняўская звяртаецца ўжо да сучаснасці і аналізуе матэрыялы разнастайных інтэрнэт-блогаў. Тут мы зноў маем справу, хутчэй, з калектыўным прадуктам, чым з індывідуальным. Калі ў першых дзвюх частках розныя тэксты выкарыстоўваліся як крыніца для рэканструкцыі базавых катэгорыяў менталітэту («свае» і «чужыя», прастора і час ды г. д.), то пры пераходзе да сучаснасці даследніца досыць радыкальна змяняе свой падыход і аналізуе ўжо не базавыя канстанты менталітэту, а рэфлексійны ўзровень, тое, як іх усведамляюць і абмяркоўваюць інтэрнэт-карыстальнікі ў Беларусі. Таму гэтая частка носіць больш апісальны, чым аналітычны характар, і даследаванне сучаснага менталітэту беларусаў зводзіцца, хутчэй, да сціслага пераказу асноўных дыскусіяў у блогах.

Зноў жа, часткова гэтыя дыскусіі зводзяцца да аднаўлення розных стэрэатыпаў: пра беларускі «парадак», талерантнасць і г. д. Напэўна, найбольш цікавыя і жывыя спрэчкі разгортваліся ў беларускай інтэрнэт-прасторы вакол альтэрнатыўнага канцэпту беларускасці – «літвінства». Гэтым дыскусіям на старонках кнігі таксама адводзіцца пачэснае месца. На жаль, спробы канцэптуалізацыі гэтых дыскусіяў праз разгортванне класіфікацыі розных праектаў беларускай нацыі выглядаюць вельмі спрэчнымі, бо прапанаваная сетка версіяў этнічнасці яўна пабудаваная на крытэрыях рознага паходжання. Больш за тое, яна слаба суадносіцца з рэальнымі інтэлектуальнымі практыкамі, таму фактычна дае вельмі скажонае ўяўленне пра актуальныя супярэчнасці і праблемныя месцы ў асэнсаванні беларускай нацыі рознымі групамі. Яшчэ менш карысці можна вынесці з класіфікацыі нікаў інтэрнэт-карыстальнікаў (с. 411–413).

Трэба адзначыць, што яскравай рысай расповеду, характэрнай для аўтаркі, ёсць падкрэсленая сімпатыя да аб'екта даследавання – ці то гэта

просты мужык, ці то савецкі інтэлігент, ці то блогеры. Таму і вобраз менталітэту беларуса атрымоўваецца выразна пазітыўным, што яўна павінна спрацаваць супраць пашыранага стэрэатыпу адсталай нацыі ды зацюканых беларусаў. У гэтым відавочны плюс і адназначная карысць гэтай кнігі.

Праца Юліі Чарняўскай напісаная сапраўды досыць лёгкай мовай, ахоплівае вялікі прамежак часу і змяшчае шмат трапных і вартых увагі назіранняў. Але пры гэтым адвольнасць працы з крыніцамі, шматлікія вельмі дзіўныя і яўна нацягнутыя інтэрпрэтацыі ствараюць дзіўнае ўражанне паранавуковай публікацыі. Кніга як быццам апранутая ў сур'ёзнае адзенне (тут мы нібыта маем тэарэтычны базіс, працу з першакрыніцамі, свежыя метадалагічныя падыходы), але навуковыя стандарты настолькі моцна скажаюцца, што ў выніку вельмі цяжка паставіцца да кнігі «Беларусы. Ад "тутэйшых" да нацыі» як да метадалагічна вытрыманага даследавання.

Хутчэй, мы атрымалі чарговую пераважна публіцыстычную працу пра Беларусь і беларусаў, якіх было шмат і, спадзяемся, будзе яшчэ больш.

**Літаратура, якая згадваецца ў рэцэнзіі**


1. Акудовіч, В. В. (2007). *Код адсутнасці. Асновы беларускай ментальнасці*. Мінск: Логвінаў.
2. Смалянчук, А. (2007). «Другая сусветная вайна ў памяці насельніцтва Заходняга і Ўсходняга памежжа Беларусі», у E.Smulkowa і A. Engelking (red.) *Pogranicza Bialorusi w perspektywie interdyscyplinarnej*. Warszawa: 121–156.
3. Чернявская, Юлия (2006). *Белорус: штрихи к автопортрету. Этнический самообраз белоруса в сказках*. Минск.
4. Шаталава, В. (2008). «Ценi вайны: паліцэйскія і партызаны ў памяці насельніцтва беларускай вёскі», *Homo Historicus. Гадавік антрапалагічнай гісторыі*: 384–389.